Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

4 лютага 1998 года
СЕРАДА
№ 9(89)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




**МЯСЦОВЫ**

## Зноў падаражанне

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Відаць, гэтаму ніхто сёння не здзіўляецца. Цэны на ўсе тавары растуць, як грыбы пасля цёплага дождажыку. Але ж студзеньскае падаражанне самае найбольшае за апошнія месяцы. Напрыклад, буханка хлеба беларускага зараз каштуе 9 тысяч рублёў. Яшчэ некалькі дзён назад на цэнніку стаяла лічба 7200 рублёў.

Пакет малака стаў даражэйшым на 500, кефіру — на 700 рублёў. Звычайны батон зараз можна купіць за 8200 рублёў. Цана на яго падскочыла больш як на паўтысячы беларускіх зайчыкаў. Падаражалі і іншыя харчовыя тавары. Вось вам і стабілізацыя, што наступіла ў эканоміцы нашай краіны, пра якую штодня мы чуем па радыё і тэлебачанні, і чытаем у дзяржаўных газетах.

## Мёрзнуць у школе дзеці

**ІВАЦЭВІЧЫ.** У няпростых умовах прыходзіцца набываць веды вучням Святавольскай сярэдняй школы. Тэрмометр у памяшканні не ўзнімаецца па шкале вышэй дзесяці градусаў. Таму й сядзяць дзеткі за партамі ў верхнім адзенні. Бывае, што дырэкцыя школы вымушана скарачаць урокі. Настаўнікам таксама працаваць у такіх умовах нялёгка. Горш за ўсё, відаць, бацькам, якія часта кладуць дзяцей у мясцовую бальніцу. Да прыкладу, у санітаркі Зоі Рыгораўны Джэжоры хварэюць цяпер дзве дачкі. Адна ляжыць у бальніцы з запаленнем лёгкіх, другая — з бранхітам.

Мясцовыя людзі ўсю віну звальваюць на будаўнікоў, якія памянялі дзеля сваёй выгады катлы з лепшым абагрэвам на менш энергаёмкія.

Работнікі школы даказваюць, што трэба мяняць усю ацяпляльную сістэму. Але ж ці знойдзе сродкі зараз раённы аддзел адукацыі, каб выправіць становішча?



● *СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

**4 ЛЮТАГА 1746 ГОДА Ў ФАЛЬВАРКУ МЕРАЧОЎШЧЫНА НАРАДЗІЎСЯ АНДРЭЙ ТАДЭВУШ БЕНАВЕНТУРА КАСЦЮШКА**

## Славяць Касцюшку землякі

Шырокага поля разбег,
Як вокам акінуць – снег.
Пагорак з сівой даўніны,
Вандроўніка ветра званы,
Як усхліп абарванай струны.
Пяюць на пагорку яны
Напамінкам сівой даўніны.
Зорнымі росамі тут
Сцяжыну таптаў Банавентур.
Маленькі Касцюшка калісь
Сігаў жаўруком увысь.
Вольным птахам кружыў,
Над краем нявольным кружыў –
Так спела вольнасць душы.
Па свету панёс ён свой крыж.
Зямлю акрапіў крывёй
Пад белай харугвай сваёй.
... Пагорак. Глыбокі снег.
Шырокага поля разбег.
Узарвалася цішыня
Белізной незабытага дня.
Як тады, як калісь
Харугва Касцюшкі ўвысь
Белай птушкай ляцела
З «Пагоняй» у неба блакіт.
Сына славілі землякі –
Чарвоныя ружы, гваздзікі
На сядзібе зімой зацвілі.

*Н. ЧЫКІТА,*
*г. Івацэвічы.*

**(Матэрыял, прысвечаны Тадэвушу Касцюшку, чытайце на 2-й стар.).**

## Назад – у чэргі?

Як мы паведамлялі ўжо, з 1 лютага пачалася забастоўка прыватных гандляроў-прадпрымальнікаў. Апусцелі рынкі ў Івацэвічах, Баранавічах, Бярозе. Вядома, гэтая іх акцыя (шырокамаштабная) праводзіцца ў рамках салідарнасці з усімі прадпрымальнікамі краіны. Нашы калегі-журналісты з Гродна, Слоніма і іншых гарадоў паведамляюць, што і там рынкі закрыты і не працуюць.

Прычына забастоўкі таксама вядомая: увядзенне так званага двайнога падатку. Увесь мінулы год прадпрымальнікі спраўна плацілі падаткі, а цяпер па выніках года іх яшчэ раз прымушаюць падсумаваць свой тавараабарот і выплаціць дадатковы падатак. Як сказаў адзін прадпрымальнік, гэта сітуацыя нагадвае яму язду на трамваі: ён купіў праязны білет на ўвесь год і карыстаўся ім. Але ў канцы года прадаўцы гэтага білета кажуць: даруй, мы ўзялі за яго замала. Даплачвай.

Дык вось прыкладна так паводзіць у адносінах да прадпрымальнікаў наша дзяржава. Відавочна, што многія дробныя, ды і сярэднія гандляры проста не ў стане выплаціць гэты дадатковы падатак і вымушаны будуць пакінуць свае заняткі і папоўніць армію беспрацоўных.

— А няхай пасядзяць на хлебе ды вадзе, — сказаў нам шаноўнага ўзросту чалавек, пaглядаючы на пустыя гандлёвыя рады Івацэвіцкага рынку. – Распладзіліся, тры скуры з людзей дзяруць. Быў бы Сталін, дык хутка б іх усіх на Шыбельную гару адправіў...

Ну як пракаменціраваць гэтыя словы? У іх жа нічога акрамя злосці да прыватных гандляроў няма. Той, хто так гаворыць, не хоча ўспамінаць пра тое, што кааператыўны гандаль рэалізуе тавары насельніцтву з гандлёвымі нацэнкамі ад 20 да 30%. Быў час, калі на некаторыя тавары (напрыклад, ручныя швейныя машынкі) гандлёвыя нацэнкі дасягалі 75%. І гэта – не абдзіралаўка!

Не ўспамінаецца і час, калі каўбаса вараная, мандарыны, іншыя тавары па блату прадавалі. Каля ўнівермага ў Івацэвічах начамі стаялі натоўпы, гарэлі кастры, дзе жадаючыя купіць прасціну ці навалачку чакалі раніцы і адкрыцця магазіна.

Дык што, задушым прыватных гандляроў, а самі зноў па начах у чэргах за самым неабходным стаяць будзем?!

## Івацэвіцкі Дом дзіцячай творчасці пераехаў...

Нарэшце! Пераезд адбыўся з памяшканняў, якія (пра гэта мы неаднаразова пісалі) знаходзяцца ў аварыйным стане з-за аварыі ў ацяпляльнай сістэме. Цяпер Дом творчасці будзе займаць другі і частку трэцяга паверхаў былога будынка СШ № 1. Месца хопіць і танцорам, і спевакам, і самадзейным артыстам,і гурткоўцам іншага накірунку. Як нам паведамілі ў Доме творчасці, цяпер ёсць магчымасць нават павелічэння колькасці гурткоў, наведваць якія ёсць шмат жадаючых з ліку дзятвы Івацэвічаў.

Праўда, яшчэ не закончаны рамонт актавай залы. Але ж і тут відавочна завяршэнне работ будзе, бо будаўнікоў цяпер кожны дзень будуць прыспешваць не толькі дарослыя, але і дзеці. Усяго рамонт памяшканняў для Дома дзіцячай творчасці доўжыўся амаль два гады. Добра ўсё тое, што добра заканчваецца.

## Вось дык стабілізацыя

**ІВАЦЭВІЧЫ.** На сесіі райсавета ў справаздачы райвыканкама аб рабоце па сацыяльна-эканамічным развіцці раёна на 1997 год было сказана, што "нягледзячы на складанасці, намецілася тэндэнцыя стабілізацыі і ў сельскай гаспадарцы". І далей: крэдыторская запазычанасць гаспадарак раёна складае 180 мільярдаў рублёў, а агульная запазычанасць за электраэнергію перавысіла 24 мільярды рублёў.

Словам, гаспадаркі раёна ў даўгах, як у шаўках. А чыноўнікі ў гэты час гавораць пра нейкую стабілізацыю. Сапраўды, дзіўна.

## Сур'ёзна: выміраем

**ІВАЦЭВІЧЫ**. Раённыя чыноўнікі ў сваіх выступленнях гавораць пра стабілізацыю ў эканоміцы, пра поспехі ў розных галінах гаспадарання, пра павышэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва. Калі ў нас увогуле ўсё ідзе на лад, дык чаму ж у нас няма росту насельніцтва? Вось лічбы. За мінулы год у раёне нарадзілася 680 дзяцей, а памёрла 973 жыхары, гэта значыць толькі за год знікла насельніцтва трох такіх вёсак, як Сакоўцы.

Сапраўды, ёсць над чым задумацца, паразважаць, чаму ў год уздыму і стабілізацыі так хутка змяншаецца насельніцтва. Хто ж адкажа на гэта пытанне?

## Стараста-млынар

**БАРАНАВІЧЫ**. Уладзімір Аляксандравіч Калюта – - карэнны жыхар вёскі Кісялі. 28 гадоў ён прарабіў экскаватаршчыкам у ПМК-5. Пайшоў на пенсію і не апынуўся без работы. Дабудаваў свой дом, а потым яго ўгаварылі пайсці працаваць на млын, адноўлены калгасам "Ленінец". І тут Уладзімір Аляксандравіч па-гаспадарску павёў справу.

Іменнна за справядлівы характар, гаспадарскую жылку вяскоўцы выбралі Уладзіміра Аляксандравіча старастам вёскі Кісялі. Людзі ідуць да яго па дапамогу і добрую параду.

☎ *АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?*

## Перажылі блат, перажывём і «изобилие»...

*— «Газета для вас»? Калі ёсць у вас магчымасць, дык пашліце свайго карэспандэнта ў магазін № 6 Івацэвіцкага гарпо. Там нейкі семінар праходзіць, дык чаго толькі ў магазін ненавезлі! Сапраўднае «изобилие»! Але вось я ў 11.30 хлеб купляла па 6 тысячаў за буханку, а калі ўдзельнікі семінару прайшлі (пасля 12.00), то хлеб ужо стаў каштаваць 9 тысячаў за буханку... Спрабавалі мы пазваніць старшыні праўлення райпо В. А. Власаўцу, але яго на рабоце няма, сказалі, што ён ужо ў рэстаране...*

*Раіса П. (прозвішча ў рэдакцыі захоўваецца).*

Наша чытачка званіла нам у мінулую пятніцу, калі сапраўды ў Івацэвічах праводзіўся абласны семінар работнікаў гандлю, якія наведвалі гандлёвыя аб'екты. Былі яны і ў магазіне № 6, дзе не так даўно праведзена рэканструкцыя памяшкання, і засталіся задаволены і інтэр'ерам, і ўзроўнем гандлю, і асартыментам тавараў. Апошні сапраўды ў гэту пятніцу быў для пакупнікоў магазіна дзіўным. Як нам паведаміла загадчыца магазіна Людміла Гегеня, у продажы было аж 19 найменняў хлебабулачных вырабаў, 10 – рыбы, мноства мясных вырабаў і г. д.

Што датычыцца хлеба, дык ён, па словах загадчыцы Л. Гегені, быў трох гатункаў – прыдняпроўскі (па 6 тысячаў рублёў за буханку), беларускі (па 9 тысячаў) і вераснёўскі (па 7.800 рублёў). Прыдняпроўскага было мала – 98 буханак. Яго хутка прадалі. Л. Гегеня выказала меркаванне, што чытачка «Газеты для вас» проста не разабралася, які яна хлеб хлеб купляла ў 11.30 і ў 12.00. Хлеб беларускі за 9 тысячаў адрозніваецца ад хлеба прыдняпроўскага па 6 тысячаў тым, што на яго паверхні зроблены дзве ямкі...

Пазванілі мы і ў райпо. Старшыні В. Власаўца, як нам сказала сакратар С. Баркоўская, не было. Трубку ўзяла эканаміст па цэнах Т. Бойка. Яна таксама пераконвала нас, што пакупніца, якая званіла ў газету, памылілася. Па словах Т. Бойка, хлеб прыдняпроўскі выпускаецца цяпер вельмі ў абмежаванай колькасці таму, што гэта нявыгадна эканамічна з-за яго цаны (6 тысячаў за буханку).

Магчыма, наша чытачка і памылілася. Але тады ўзнікае пытанне: што за якасць у дарагога хлеба, калі яго нельга адразу адрозніць ад таго, які на 50% каштуе дзешавей? Дарэчы, пра якасць івацэвіцкага хлеба мы пісалі неаднойчы, бо шмат нараканняў на тое, што хлеб паступае ў продаж ці недапечаным, ці гарэлым, ці кіслым.

І яшчэ. У мінулыя выхадныя свініна на калгасным рынку (па вуліцы Клютка) у Івацэвічах была па цане 85—100 тысячаў рублёў за кілаграм. У гэты ж час у магазінах яна прадавалася па 74—78 тысячаў за кілаграм. Што за дзіва! — усклікнеце вы. Жыхары Івацэвічаў больш прывыклі да таго, што свініны ў продажы не бывае. Мы крыху падумалі і ўспомнілі, што напярэдадні (25 студзеня) калгасны рынак быў закрыты нібыта па ўказанню санстанцыі. Усе, хто прывёз на яго мяса, вымушаны былі здаць яго ў магазіны, дзе яго аказалася ў «изобилии». А 30 студзеня ў Івацэвічах абласны семінар праводзіўся, і яго ўдзельнікам гэтае «изобилие» было прадэманстравана...

Вось так: хочаш, каб было «изобилие» – дык крыху падумай. Заўсёды можна прыдумаць, як гэтага прыватніка да парадку заклікаць...

● СОЦИОЛОГИЯ

# «Светлогорский кризис» может повториться в любой точке республики

В 1997 году маленький белорусский город Светлогорск стал известен на весь мир как особая зона бедствия, нуждающаяся в специальном внимании мирового сообщества. Взоры к Светлогорску были обращены в связи со вспышкой там ВИЧ-инфекции среди молодежи. Исследования медиков демонстрировали прямую связь инфекции с распространением среди молодежи наркомании и неразборчивых половых связей, способствующих увеличению ВИЧ-инфицированных.

Чтобы понять, что же происходит сегодня в молодежной среде, Институтом социологии национальной Академии наук Республики Беларусь в последнем квартале 1997 года было проведено исследование, направленное на изучение происходящих в молодежной среде социальных процессов. Для опроса использовалась анкета «Молодежь. Секс. СПИД. Наркотики». В исследовании приняли участие 590 молодых людей Минска и Минской области в возрасте 14-27 лет, которые представлены следующими группами: возраст 14—17 лет – 32,02 процента, возраст 18—22 года – 31,85 процента и молодежь в возрасте 23—27 лет – 36,13 процента. Среди данной совокупности мужчины составили 54,6 процента, а женщины – 45,4 процента. Работают – 33,4 процента, учатся – 44, работают и учатся –17 процентов, временно не работают – 5,7.

Данные исследования показали, что сегодняшняя молодежь очень рано начинает вступать в сексуальные отношения, не умея еще грамотно разобраться в них. Возраст вступления в первые сексуальные контакты назван респондентами следующий (в процентах):

| | |
|---|---|
| 12 лет | 4,8 |
| 13 лет | 8,5 |
| 14 лет | 19,2 |
| 15 лет | 26,7 |
| 16 лет | 21,6 |
| 17 лет | 9,8 |
| 18 лет | 4,1 |
| 19 лет и более | 1,3 |

Информацию по сексуальным отношениям молодые получают прежде всего из зарубежных кино-и видеофильмов (72,6 процента), на дворовых тусовках (47,1 процента), в школе от товарищей и подруг (43,7 процента). Сексуальные знания, полученные от педагогов, отметили только 1,3 процента респондентов. Естественно, приобретаемые таким путем познания не очень способствуют формированию высокой сексуальной культуры.

Молодежь сама считает, что нуждается в половом просвещении, но делать это, по ее мнению, надобно с помощью умных, тактичных советов взрослых людей (42 процента). О том, что просвещение в стране полностью отсутствует, заявили 23,6 процента опрошенных.

В связи с опасностью распространения СПИДа в молодежной среде в ходе исследований выяснялось, о каких путях его распространения юношам и девушкам известно. В большинстве своем молодежь считает, что СПИД связан с наркоманией, а источником ВИЧ-инфекции являются беспорядочные половые связи наркоманов (12,3 процента) и использование наркоманами для инъекций одних и тех же шприцов без стерилизации (76,9). «Божьей карой» СПИД называют 3,6 процента респондентов. 7,2 процента полагают, что наркоманы заболевают СПИДом из-за того, что физически наиболее ослаблены и не могут противостоять инфекциям. При этом 71,2 процента опрошенной молодежи считают проблему угрозы заражением СПИДом вполне реальной и для лиц, не являющихся наркоманами.

В мире определены группы риска, наиболее предрасположенные к заболеванию СПИДом. Кроме наркоманов и проституток, к этой группе относятся и гомосексуалисты. Во время исследования ставилась цель определить, как современная молодежь смотрит на это явление. На вопрос анкеты «Считаете ли вы сексуальные отношения между однополыми партнерами извращением?» были получены следующие ответы (в процентах):

Да, считаю 48,3
Нет, не считаю 31
Не задумывался 21,1

Столь лояльное отношение молодежи к подобным сексуальным связям свидетельствует о том, что они для нее не являются чем-то особенным. Молодежь смотрит на бисексуалов вполне терпимо, воспринимая их как данную реальность, а следовательно, обладающую всеми правами нормальных людей.

Исследование показывает весьма лояльное отношение большинства молодежи и к наркомании.

Узнавали респонденты о наркотиках прежде всего из демонстрации зарубежных фильмов на ТВ, в кинотеатрах, из видеофильмов. Об этом сообщили 58,9 процента респондентов. Приобщение к подобным знаниям в весьма юном возрасте способствует возникновению любопытства и желания попробовать, что это такое. Из передач на ТВ можно узнать не только о существовании наркотиков, но и увидеть, как наркоманы их приготавливают, услышать, что они испытывают при употреблении наркотических веществ, узнать стоимость наркотика и возможную прибыль от их распространения. Об этом же можно прочитать и в печатных средствах массовой информации (так считают 46,25 процента опрошенных). У молодежи появляется особая тема для обсуждения. Не случайно 40,6 процента респондентов отметили в анкете, что в молодежной среде о наркотиках говорят довольно часто. Разговоры эти прежде всего касаются обсуждения «кайфа», который можно «словить», употребляя тот или иной наркотик.

В Беларуси, ставшей в настоящее время перевалочным пунктом для перевоза наркотиков из Украины, Закавказья, Средней Азии в Россию и Прибалтику, Западную Европу проблемы достать наркотики не существует. Молодежь в анкетах назвала места, где можно преобрести наркотики.

Рынок наркотиков в Беларуси достаточно широк, проблемы «Где достать?» просто не существует — были бы деньги. Купить наркотик можно прямо в стенах школы или института. Трудно поверить, что органы МВД, призванные вести соответствующую борьбу с проникновением наркотиков в республику, не знают тех мест, где эти наркотики приобретаются. Эти места знают даже 14-летние школьники. Однако борьба ведется прежде всего не с поставщиками губительного зелья, а с попавшими в наркотическую западню уже больными, неспособными к сопротивлению своему пристрастию наркоманами, чье здоровье значительно подорвано наркотиками.

Как показывает практика, наиболее употребляемым является самый дешевый наркотик, который покупается коллективно и коллективно используется представителями самых различных социальных слоев – маковая соломка (31,1 процента), затем по популярности идет Х-ТС (экстази) МДМА, которым торгуют на дискотеках и который назвали 30,7 процента респондентов. Реже по популярности называются более дорогие, но и более сильные наркотики: гашиш – 17 процентов, героин – 13 процентов, опиум для курения –12 процентов и ряд других. Использует молодежь для «кайфа» и медикоментозные средства, прежде всего кетамин (калипсол) – средство для наркоза, приобретаемое в основном у медицинских работников в больницах и на станциях скорой помощи.

Проведенное исследование, которое мы считаем в какой-то степени пилотажным, показывает, что есть серьезная проблема, связанная с предрасположенностью молодого поколения к употреблению наркотиков, сексуальной распущенности, и, как следствие подобного образа жизни, — к заболеванию СПИДом. Таким образом, повторение «светлогорского кризиса» может случиться в любой точке республики, в том числе и в Минске.

*Людмила АГЕЕВА, кандидат философских наук, БелаПАН.*

# Для дома, для семьи, для души...

☺ *ЭТО ИНТЕРЕСНО*

## Газеты — буренкам

Целлюлоза, обработанная определенным образом, очень хорошо усваивается организмом домашних животных — коров и свиней. При ее добавлении в суточные рационы от 50 до 250 г у них наблюдается повышенная жизнедеятельность, заметно увеличивается живой вес. В Австралии на корм овцам идут старые газеты, ведомости, отчеты. Макулатуру (65%) смешивают с отходами обработки льна (35%), добавляют немного минеральных солей. Прибавка веса овец — до 177 г в день.

☺ *ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ*

## 10 чашек зеленого чая — и рак не страшен

Многие знают, что японцы на нашей планете добились самой большой продолжительности жизни, несмотря на свой тяжелый трудовой график, скученность в больших городах, еще недавнюю массовую бедность.

Сейчас в их стране мужчины в среднем живут свыше 76, а женщины — более 82 лет.

Причины японского здоровья и долголетия, в сущности, ясны давно. Помимо успехов в здравоохранении, высоком уровне санитарии, привычки к физическим упражнениям, огромную роль играет рацион наших соседей по Дальнему Востоку, основанный практически на всем полезном: разнообразных морепродуктах, вареном несоленом рисе, обилии овощей и фруктов, минимуме животных жиров. И конечно же, зеленый чай — удивительный напиток, обладающий потрясающим свойством предохранения организма практически от всех видов рака.

Японцы готовят зеленый чай точно так же, как и мы черный. Насыпают несколько щепоток заварки в чайник и заливают очень горячей водой. Крутого кипятка здесь предпочитают избегать, полагая, что он убивает вкусовые свойства. Дайте напитку немного настояться и разливайте в чашки, не забывая, что сахар и молоко с ним несовместимы. Японцы считают, что заварка сохраняет свои главные целебные свойства только при двух первых заливках горячей водой. Впрочем, третью они тоже не выбрасывают, а обычно собирают в кувшин и используют для умывания, что, как говорят, очень способствует сохранению младенческой упругости кожи.

Есть закон, который знают все японцы: в день нужно выпивать не менее девяти-десяти чашек зеленого чая. Старинное наблюдение подтверждено и данными медицинской статистики, подготовленной центром исследования рака префектуры Сайтама. В течение 10 лет его эксперты держали под ежедневным контролем более девяти тысяч человек. Исследование было начато ради общего изучения тенденции в жизни простых японцев, однако оно дало поразительный результат: люди, ежедневно выпивавшие 10 и более чашек зеленого чая, в среднем жили на пять-семь лет дольше тех, кто употреблял менее трех чашек этого напитка.

В категории 40 чашек и более число заболевших всеми видами рака было на 25—30 процентов меньше, чем среди тех, кто пренебрегал зеленым чаем. Статистика полностью подтверждена и серией отдельных исследований, проведенных в ведущих медицинских центрах Японии.

☺ *ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ*

## На любой вкус

**Употребление базилика** В пищу употребляют молодые побеги базилика. Свежие и сухие листья применяют в качестве приправы к мясным, рыбным и овощным блюдам. Используют базилик также при засолке огурцов, приготовлении коктейлей для ароматизации томатных соусов.

**Чем ценен кориандр.** В плодах кориандра, в зависимости от сорта и происхождения, содержится от 0,2 до 1,4 эфирного и от 16 до 28% жирного масла. Для получения эфирного масла пригодны лишь европейский, западно-китайский и абхазский кориандр. Витаминная зелень кориандра хороша как приправа к мясу, овощам. В народной медицине его применяют как желчегонное, антисептическое и стимулирующее работу пищеварительных желез средство. Если сеять кориандр с ранней весны до середины лета на легких нейтральных почвах с интервалом в 2—3 недели, свежая пряная зелень будет у вас на столе до осени.

**Как хранить корнеплоды.** Свеклу, брюкву, редьку можно хранить в закромах или ящиках. Морковь, сельдерей, хрен, репа лучше сохраняются, если их пересыпать влажным песком.

**Если нет весов.** 1 ведро вмещает 10 л или 10 кг воды, 1 л равен 1000 куб. см или 1000 г воды, 1 стакан ( тонкий или граненый с ободком) вмещает 250 куб. см или 250 г воды, 1 стакан (граненый без ободка) вмещает 200 куб. см или 200 г воды, 1 столовая ложка вмещает 15 куб. см или 15 г воды, 1 чайная ложка вмещает 5 куб. см или 5 г воды, одна столовая ложка вмещает 3 чайные ложки воды.

☺ *ПРИЯТНОГО АППЕТИТА!*

## Быстрый пирог

Вам позвонили друзья и через полчаса придут в гости. Вот рецепт самого быстрого и самого вкусного пирога.

2—3 яйца взбейте со стаканом сахара, добавьте пачку растопленного маргарина, 3 столовые ложки сметаны и 0,5 чайной ложки соды (погасите ее в сметане или уксусом), на кончике ножа ванилин.

Перемешайте, добавьте половину пол-литровой банки муки (чтобы тесто было средней консистенции). 3 столовые ложки теста замесите погуще и положите в морозильную камеру.

Выливаете тесто на смазанный жиром и посыпанный сухарями противень, сверху укладываете варенье (желательно кислое). Тесто из морозилки натираете на крупной терке (свекольной) на верх пирога. Выпекаете 15 мин в духовке. Готово! А вот и гости на пороге. Приступаем к чаепитию. Вкусно!

ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ

# ЧАГО МОЖНА ЧАКАЦЬ АД БЕДНАГА СЕЛЯНІНА І ГАЛОДНАГА МАСТАКА?

Гартаючы статыстычны зборнік, я звярнуў увагу на такую табліцу:

**Сярэдняя зарплата ў лістападзе 1997 г.**

| | |
|---|---|
| Работнікі трубаправоднага транспарту — | 6,068 млн. руб. |
| Мытні — | 6,52 млн. руб. |
| Банкаў — | 5,31 млн. руб. |
| Міжгаліновых органаў гаспадарчага кіравання — | 5,88 млн. руб. |
| Сацыяльнага забеспячэння — | 1,40 млн. руб. |
| Сельскай гаспадаркі — | 1,56 млн. руб. |
| Культуры — | 1,89 млн. руб. |
| Мастацтва — | 1,77 млн. руб. |

Такім чынам, найбольш высокія заробкі ў тых, хто перапампоўвае газ і нафту. Неблагія яны ў мытнікаў і банкіраў. І гэтаму можна толькі радавацца. Засмучае, праўда, тое, што вельмі нізкія заробкі ў працаўнікоў вёскі, работнікаў сферы культуры, мастацтва. Чаму? Чаму той, хто вырошчвае хлеб і гадуе кароў, зарабляе столькі, што не можа звесці канцы з канцамі? Сістэма гаспадарання вінавата? Тады чаму ўлады не мяняюць яе? Не здольны?

Пад гэтым вуглом паглядзім на заробкі работнікаў і іншых сфер. Спынімся на найбольш важных з іх.

**Сярэдні заробак у лістападзе 1997 г.**

| | |
|---|---|
| Работнікі прамысловасці — | 3,33 млн. руб. |
| Навукі і навуковага абслугоўвання — | 3,23 млн. руб. |
| Лясной гаспадаркі — | 2,42 млн. руб. |
| Транспарту — | 3,16 млн. руб. |
| Сувязі — | 2,81 млн. руб. |
| Гандлю і грамадскага харчавання — | 2,39 млн. руб. |
| Адукацыі — | 2,26 млн. руб. |
| Аховы здароўя — | 2,16 млн. руб. |

У дакладзе Міністэрства статыстыкі няма даных аб тых, колькі канкрэтна зарабляюць начальнікі (дырэктары заводаў, міністры, «вертыкальшчыкі»). Відаць, гэта лічыцца дзяржаўнай тайнай. Не паведамляецца і аб заробках міліцыянераў і амапаўцаў. Ёсць толькі графа «судовыя і юрыдычныя ўстановы». Дык вось, работнікі такіх устаноў у сярэднім маюць 3,75 млн. рублёў у месяц.

Неаднолькавы сярэдні заробак і па абласцях. На Брэстчыне агульная сярэднямесячная зарплата склала ў лістападзе 2,46 млн. рублёў, на Віцебшчыне – 2,49 млн. руб., на Гомельшчыне – 2,74 млн. руб., на Гродзеншчыне – 2,48 млн. руб., на Міншчыне – 2,54 млн. руб., Магілёўшчыне – 2,58 млн. руб., у Мінску – 3,64 млн. руб. Чаму працаўнікі Гродзеншчыны, якія сабралі самы багаты ўраджай, атрымалі меней, чым магіляўчане, якія адстаюць ад іх і па надоях, і па намалотах?

Зарплату мала зарабіць. Яе хочацца ў тэрмін атрымаць. А гэта ўдаецца далёка не ўсім. У нас толькі па тэлебачанні гавораць, што ў Беларусі людзі своечасова атрымліваюць зарплату. Па стане на 24 снежня агульная запазычанасць па зарплаце склала 8,5 працэнта. А многія працаўнікі месяцамі яе не бачаць. Так, запазычанасць па заробку калгаснікам на справаздачную дату склала 56,9 працэнта. Пазнаёмцеся з данымі статыстыкі па запазычанасці па зарплаце.

Па абласцях малюнак такі:

**Агульная запазычанасць па зарплаце на 24 снежня 1997 г. у % да фонда зарплаты ў лістападзе**

| | |
|---|---|
| У цэлым па краіне — | 8,5 |
| Брэсцкая вобласць — | 8,5 |
| Віцебская — | 8,6 |
| Гомельская — | 13,8 |
| Гродзенская — | 7,4 |
| г. Мінск — | 0,4 |
| Мінская — | 12,5 |
| Магілёўская — | 11,8 |

Чаму мінчане амаль усе своечасова атрымліваюць зарплату, а ў абласцях яе затрымліваюць? Чаму ў рабочых прамысловасці запазычанасць складае толькі 2,9 працэнта, а ў калгаснікаў – 56,9 працэнта? Хацелася б пачуць адказы і разважанні на гэтыя пытанні ад нашых чытачоў. І не толькі на гэтыя. Прыведзеныя лічбы і факты даюць багаты «харч для роздуму». У іх, думаецца, ёсць адказ і на галоўнае пытанне, якое хвалюе, бадай, кожнага: «Ці пачнецца ў нас уздым эканомікі, выхад з крызісу?»

На маю думку, пры той палітыцы, якой прытрымліваюцца сённяшнія ўлады, у бліжэйшы час гэта не прадбачыцца. А як думаеце вы?

*А. ДРАБЧУК.*
("Народная воля").

Гэта здарылася зусім нядаўна – 28 студзеня, днём, на аўтадарозе Брэст—Мінск, прыкладна ў кіламетры ад павароткі на вёску Волька. Легкавая іншамарка рухалася з Брэста і нечакана выехала на паласу сустрэчнага руху, дзе і сутыкнулася з аўтамабілем «Жыгулі». Вынік вельмі сумны: два чалавекі з іншамаркі, у тым ліку і шафёр С. Ільмоўскі, жыхар г. Мінска, загінулі; двое з «Жыгулёў» (муж і жонка) паранены.

Прычына гэтай трагедыі яшчэ высвятляецца, але факт застаецца фактам – загінулі людзі, якія б маглі жыць, прыносіць

ПОСТ ДАІ

# ЛІК АХВЯРАЎ РАСЦЕ

карысць сабе, сваёй сям'і і дзяржаве.

На жаль, лік ахвяраў дарожна-транспартных здарэнняў расце. Толькі ў студзені ў нашым раёне іх адбылося ўжо пяць, чатыры чалавекі загінулі, пяць – паранена. Такога трагічнага пачатку года я штосьці не прыпомню.

Як паказвае аналіз гэтых здарэнняў, амаль усе яны на сумленні вадзіцеляў. Не ўкладваецца ў галаве, як можна не заўважыць цэлы састаў, што рухаецца па чыгунцы і ўрэзацца ў яго легкавушцы. З такіх сутыкненняў у легкавым аўтамабілі звычайна жывых не застаецца. Так было і на гэты раз. Сумна, балюча і трывожна. Куды ж падзеліся вадзіцельская асцярожнасць, уважлівасць, нарэшце, неабыякавасць да лёсу людзей і свайго, канечне.

Можна добра ведаць правілы дарожнага руху, але грэбаваць імі. Можна мець іншамарку, але да пары з рызыкай ганяць яе. Можна сесці за руль на добрым падпітку, але не даехаць да месца прызначэння...

Можна і нельга. Трэба выбіраць адно – тое, што забяспечыць бяспеку руху; тое, што прынясе чалавеку радасць і задавальненне ў час язды ці то на быстраходнай іншамарцы, ці то на самай што ні ёсць павольнай тэхніцы – матаблоцы ці трактары.

*А. АРЦЁМЧЫК, камандзір узвода дарожна-патрульнай службы дзяржаўтаінспекцыі Івацэвіцкага райаддзела міліцыі, капітан міліцыі.*

НАШ КАЛЯНДАР


Фота А. ГАНЧУКА.

## Люты прыйшоў — паўзімы далоў...

Моцныя маразы ў лютым бываюць толькі па начах. Люты малюе — чорвоную вясну чуе. Сечань-люты рассякае зіму з летам, ставіць мяжу паміж зімою і вясной, завеямі людзей палохае...

У сённяшні дзень (4 лютага) пасечнікі аглядваюць пчолаў: пчолы слаба гудзяць — пераносяць зіму лёгка; трывожна гудзяць — у пчалінай сям'і нешта здарылася...



УСМІХНІЦЕСЯ

## Сnорава і спораўцы

Спораўка перад людзьмі так хваліць мужа:
—Ён у мяне харошы муж. Ён, як скажу, за сто грамаў гарэлкі курам лапы памые.

XXX

Усякае высокае начальства любіць выступаць з высокіх трыбун. Аднаго разу спораўцы ўзялі ды падпілавалі слупы ў высокай трыбуне. Узышло высокае начальства на яе, каб сказаць спораўцам палымяную прамову, ды грымнулася. З тых пор высокае начальства баіцца выступаць перад спораўцамі з палымянымі прамовамі.

XXX

Малы хлопчык-споравец убачыў праз акно, што баба яго да іх у хату ідзе. Радасна кажа маці:
—Ма, баба ідзе.
Спораўка-нявестка бурчыць:
—О, зноў яе чорт нясе...
Баба адчыняе дзверы. Унук пытаецца:
— Баба, а ты сама прыйшла?
—Сама, унучак.
— А мама кажа, што цябе чорт прынёс...

XXX

Спораўцу надта захацелася мець уласную легкавушку. І пачаў ён збіраць грошы і насіць іх у ашчадную касу. І калі споравец назбіраў пэўную суму і пайшоў купляць легкавушку, то яму сказалі, што за такія грошы ён зможа купіць толькі пеўня. І пачаў думаць споравец, чаму яму так сказалі. І гэтую думку думае споравец да сённяшняга дня.

XXX

Ён – удавец, яна – удава.
І яму цяжка дзяцей гадаваць без жонкі, і ёй не лягчэй без мужа.
Вырашылі — разам трэба жыць.
Жывуць—поўна хата дзяцей, бо ўжо і сваіх нажылі.
Крык — плач на вуліцы.
Глядзіць муж-споравец у акно, кажа жонцы:
—Слухай, жонка, мае і твае дзеці нашых б'юць...

XXX

Унучка запрашае дзеда-спораўца да сябе ў горад на наваселле і просіць:
— Гладзі, дзеду, каб па-гарадскому еў, відэльцам.
Сядзіць дзед за сталом, відэльцам есць. І захацел ся яму пакаштаваць марынаванага маслячка. І накіраваў ён свой відэлец у талерку з грыбамі. А слізкі маслячок узяў і выстрыкнуў з талеркі на стол, са стала — на падлогу. Ганяў, ганяў дзед-споравец таго маслячка відэльцам па падлозе, загнаў урэшце яго ў куток і кажа:
—Гад буду, а цябе ўсё роўна па-гарадскому з'ем!

*А. ЗАЙКА, настаўнік Запалянскай СШ Івацэвіцкага раёна.*

## Благодарность за участие

В нашей семье случилось несчастье. Умерла жена и мать моих троих малолетних детей. Через "Газету для вас" хочу выразить огромную благодарность за помощь в организации похорон и моральную поддержку в трудную для нас минуту коллективам Бытенской средней школы, детского сада и колхоза "Бытенский", а также соседям, родным и жителям д. Бытень. Огромное спасибо всем, разделившим с нами боль и тяжелую утрату, и низкий поклон.

*Виталий Леонидович КОРЗА.*
**д. Бытень.**



Калектыў работнікаў Івацэвіцкага аддзялення хуткай дапамогі выказвае глыбокае спачуванне фельчару Міраноўскаму Івану Мікалаевічу з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці БРАТА.


Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 3 лютага ў 9.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Дзяржынскага, 30, 225250, г.Івацэвічы.
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

Тыраж 1080.
Заказ 312.